© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

наша
# СВАБОДА

№59 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 ВЕРАСНЯ
2000 года
АЎТОРАК

Адрас: 220123,
г.Мінск, а/я 103

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Паляванне на пікеты

## Пачала гэтымі днямі мінская міліцыя

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Месячны марафон пікетаў у рамках передвыбарчай кампаніі «Байкот-2000» распачала 15 верасня аб'яднаная апазіцыя.**

У першы дзень, калі па новым Выбарчым кодэксе была дазволеная публічная агітацыя за байкот, планавалася правесці ў Мінску 14 пікетаў. На некаторых з іх інцыдэнты адбыліся ўжо на самым пачатку правядзення.

Не зважаючы на тое, што на правядзенне пікетаў на передвыбарчую тэматыку не трэба прасіць дазволу ў Мінскім гарвыканкаме, міліцыянты і «асобы ў цывільным» распачалі сапраўднае паляванне на пікетоўшчыкаў.

Па некалькі чалавек былі затрыманыя на перакрыжаванні праспекта Ф.Скарыны і вуліцы Варвашэні, каля кінатэатра «Масква», каля універсама «Першамайскі», на перакрыжаванні вуліцы Любімава і праспекта Дзяржынскага. Ва ўсіх былі канфіскаваныя спецвыпускі газеты НАША СВАБОДА і агітацыя за байкот выбараў.

Відавочна, што наўмысна праводзілася акцыя застрашвання, бо затрыманні ішлі менавіта там, дзе сабралося шмат народу і прысутнічалі заходнія назіральнікі ды тэле- і фотажурналісты.

Усяго ў пятніцу было затрымана 14 чалавек, з якіх вялікая частка непаўналетніх, якіх да адміністратыўнай адказнасці прыцягваць нельга.

Найбольш скандальнай акцыяй стаў пікет на перакрыжаванні вуліцы Фабрычнай і завулка Рабочага, дзе на гадавіну знікнення віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара і бізнесмена Анатоля Красоўскага сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі ладзілі гадзінны пікет-напамін. Адразу пасля таго, як пікетоўшчыкі пачалі разыходзіцца, «асобы ў цывільным», не прад'явіўшы дакументаў, сілай паспрабавалі затрымаць старшыню Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзьку, які ішоў да свайго аўтамабіля.


Фота IREX/ProMedia

А.Лябедзька пачаў супраціўляцца, матывуючы гэта тым, што не ведае, хто яго затрымлівае. За гэта яго пачалі збіваць. На дапамогу падбеглі іншыя пікетоўшчыкі, і завязалася ледзь не сапраўдная бойка. Не дапамагла і прысутнасць журналістаў.

Дасталося ад нападу невядомых і намесніку старшыні БНФ Вячаславу Сіўчыку. Тым не менш, сваёй мэты «асобы ў цывільным» не дасягнулі і мусілі пакінуць поле бітвы.

Сам Анатоль Лябедзька так пракаментаваў здарэнне: «Невядома, дзе б я быў, каб людзі не паспелі на дапамогу. Хто гэтыя бандыты, адкуль?! Але для мяне гэта не было б дзіўна, ужо звыкліся, каб не тыя абставіны, што Лукашэнка штодня крычыць, нібыта ў нас перыяд міру. Гэта ж у вышэйшай ступені цынізм! І гэта пры тым, што я нават не быў арганізатарам пікета... Гэта рэаліі сённяшняга дня».

Далей падзеі разгортваліся, як у сапраўдным дэтэктыве. Пікетоўшчыкі сабраліся ўсе разам і пайшлі па Партызанскім праспекце да прыпынку грамадскага транспарту, дзе селі на аўтобус, што ехаў у накірунку чыгуначнага вакзала. «Бандыты» ў легкавіках на малой хуткасці картэжам паехалі следам. На перакрыжаванні вуліцаў Свярдлава і Ульянаўскай і тыя і іншыя выйшлі, і «пагоня» працягнулася пешшу. Камусьці ўдалося схавацца ад пераследу, камусьці – не.

У хуткім часе былі затрыманыя журналісты Генадзь Барбарыч (БелаПАН), Уладзімір Глод (Радыё «Свабода») і дэпутат Вярхоўнага Савета Павел Знавец. Усіх даставілі ў Ленінскі РАУС, адкуль журналісты ў хуткім часе былі вызваленыя, пакінуўшы П.Знаўца сядзець у адзіноце. Ягоны ж суд быў адкладзены на няпэўны час.

Завяршыў серыю акцыяў на выхадных пікет на Камароўскім рынку, на якім за раздаванне НАШАЙ СВАБОДЫ былі затрыманыя тры чалавекі. Суды ва ўсіх адбудуцца бліжэйшымі днямі. ■

## НАВІНЫ

■ **Аляксандр Лукашэнка выдаў указ «Аб дадатковых захадах па развіцці вышэйшай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».** За мэту ўзята паляпшэнне фінансавага становішча прафесарска-выкладчыцкага складу ВНУ. Але ўказ прадугледжвае не павелічэнне мізэрных заробкаў, а ўсяго толькі тое, што 100 педагогам, якія зробяць значны ўнёсак у развіццё вышэйшай адукацыі, на год будуць усталяваныя персанальныя надбаўкі ў памеры 30 тарыфных ставак 1-га разраду. Вызначаць кандыдатуры будзе міністэрства адукацыі.

■ **У 2001 годзе ў эксплуатацыю будзе ўведзеная станцыя спадарожнікавага нагляду за пажарамі ў беларускіх лясах.** Праз яе кожныя 2 гадзіны можна будзе атрымліваць фотаздымкі з усёй тэрыторыі краіны. Ажыццяўленне такога праекта ў справе адсочвання пажараў досыць неабходнае: толькі сёлета ў Беларусі сгарэла каля 1.300 гектараў лесу.

■ **Паводле апытання, праведзенага сацыялагічнай лабараторыяй «Новак», блізу 70% беларускага насельніцтва лічаць, што на выбарах у палату прадстаўнікоў так ці інакш адбудзецца фальсіфікацыя галасоў.** 31% з іх прадбачаць, што яна будзе асабліва вялікай, а 37% — нязначнай, але будзе мець месца ўсё роўна. Пры гэтым пакуль толькі пятая частка апытаных выступае за байкот выбараў. Палова рэспандэнтаў выказалася за ўдзел палітычных партыяў у выбарчай кампаніі нават пры мажлівай пагрозе парушэнняў пры падліку галасоў. Астатнія яшчэ не вызначыліся.

■ **Расійскі ўрад падаў у суд Маямі (Фларыда, ЗША) іск супраць шэрагу тытунёвых амерыканскіх кампаніяў з мэтай кампенсацыі выдаткаў дзяржавы на лячэнне людзей ад хваробаў, звязаных з паленнем.** У адказ, напрыклад, у кампаніі «Філіп Морыс» заявілі, што пададзены «іск не мае пад сабой аніякіх падставаў – ні фактычных, ні юрыдычных», бо да распаду СССР на працягу 70 гадоў якраз менавіта ўрад быў «манапольным вытворцам тытунёвых вырабаў на ўнутраным рынку», а замежныя вытворцы проста не мелі магчымасці ні рэкламаваць свой тавар, ні прысутнічаць на рынку. Дагэтуль амерыканскія суды ўжо адхілілі падобныя іскі Гватэмалы, Украіны, Нікарагуа і некаторых іншых краінаў.

# Александра Лукашенко преследуют многовекторные провалы

**Несмотря на бурную активность белорусского внешнеполитического ведомства, так называемая многовекторная внешняя политика руководителя Беларуси Александра Лукашенко терпит провалы. Так считают многие наблюдатели. Бывший заместитель министра иностранных дел Беларуси, а ныне международный координатор гражданской инициативы Хартия-97 Андрей Санников любезно согласился ответить на ряд вопросов на данную тему.**

***— Участие главы белорусского государства Александра Лукашенко на «саммите тысячелетия» в Нью-Йорке вызвало неоднозначные отклики. Особенно, когда до окончания этого мероприятия он покинул штаб-квартиру ООН. Как Вы оцениваете такое краткое пребывание Александра Лукашенко в Нью-Йорке?***

— Если оценить одним словом, то это провал. Кто бы что ни говорил о причинах столь краткого участия А.Лукашенко в прошедшем саммите, его отъезд был похож на бегство. Насколько я знаю, его пребывание действительно планировалось менее чем на день.

И все же, почему провал? Потому что белорусской стороной было приложено много усилий на то, чтобы организовать целую серию двусторонних встреч.

Следует отметить, что этот саммит — первый в истории нового мира, когда присутствовало такое количество глав государств и правительств. И были важны не документы, которые принимались, не выступления с высокой трибуны, а именно двусторонние контакты. Ведь представлялась уникальная возможность, пусть даже во время кратких встреч, договориться и решить двум руководителям массу вопросов, обговорить график будущих встреч и т.д.

Так вот, усилия белорусского посольства и МИДа в целом организовать такого рода встречи для А.Лукашенко не увенчались успехом. Ни одна страна развитой демократии не пошла на это. Полагаю, что поэтому и было спланировано бегство А.Лукашенко. Во-первых, для того чтобы избежать того самого злополучного приема, на который действительно А.Лукашенко не был приглашен. И во-вторых, чтобы попытаться спасти лицо и представить так, что он якобы спешил на какую-то важную встречу.

***— Но ведь его действительно ждал в Минске высокий китайский гость, с которым встреча была запланирована заранее. Не так ли?***

— Зачем спешить к Ли Пэну, когда в Нью-Йорке находится Цзян Цзэминь? Уж руководитель такого государства, как КНР, может как-нибудь решить вопросы, которые входят в компетенцию как исполнительной, так и законодательной властей. Обычно парламентарии приезжают к парламентариям. Непонятным осталось и то, что неизвестно кто представлял Беларусь при принятии итоговой Декларации «Саммита Тысячелетия», в присутствии высоких гостей со всего мира. ▶

Окончание на стр.3

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»
1030

**Паважаныя чытачы!**
**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА працягвае падпіску**
**Вы можаце падпісацца ў любы час, газета будзе прыходзіць да Вас з першага дня наступнага месяца.**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





## Гуртуйся шчытна!

**Аляксандар ДУБРАВІН**

Шукаючы прычыны занядпаду нашай Беларусі ў падзеях далёкага мінулага, ў расейскай акупацыі, у геапалітычным становішчы альбо ў сучаснай здрадзе, мы, беларусы, павінны час ад часу адрывацца ад роздумаў ды крытычна агледаць сябе з усіх бакоў у люстры. Бо, сказаць па-праўдзе, мы зараз – народ хутаранскі, не дружны, часам проста абыякавы да свайго, хай бы што там ні пісалі пра талаку альбо партызанку. Хіба ж можна добра наладзіць грамаду, калі адзін з нас, напрыклад, шчыра служыць акупанту, а другі шчыра з тым самым служакам акупанта змагаецца? У выніку акупант збоку пазірае на нашу бойку, сала есць ды пасміхаецца. А ўжо час быў з гэтым канчаць ды пачынаць гуртавацца, калі жыць думаем. А то падужаюць нас паасобку, перакруцяць на маскалёў дзяцей нашых, ды пасядуць нам на каркі, ножкі звесіўшы. Яно, прынамсі, так ужо дзе-ндзе і парабілася.

І дзіву часам даешся, колькі злосці бывае ў аднаго беларуса да другога! Не так даўно быў я трапіў працаваць у адзін грантавы, амаль што суцэльна беларускі калектыў з сімпатычнымі хлопцамі ды прыгожымі кабетамі. Гаварылі мы між сабой на роднай мове, рабілі агульную карысную справу. Але якой атрутай палівалі яны мяне кожны дзень у вочы і за вочы, вам не перадаць! (Неяк, мусіць, я ім трапіў упоперак іхніх планаў наконт дадатковых заробкаў.) І калі я неўзабаве сышоў з таго калектыву, дык стаў проста ў два разы здаравейшы.

Дык вось мяне ўжо і не здзіўляе, што адзін беларускі паэт піша пранізлівыя радкі: «Бо чужына сэрца раніць, джаліць, як змяя...», а сам тым часам на гэтую чужыну ўцякае разам з гітарай, хоць яго тут і не шчэміць ніхто. Альбо, што адзін багаты малады беларускі пісьменнік выдае расейскія кніжкі мільённымі тыражамі, а сваіх учорашніх таварышаў накладам у тысячу экземпляраў на роднай мове выдаць грошай шкадуе. Больш таго, свае творы цісне за грантавыя грошы.

Гамон нам будзе з такой салідарнасцю. Таму мне бліжэй гэтакіх пісьменнікаў простыя расейскі хлопец, які хоць і не ведае пакуль што беларускай мовы дасканала, але ўжо чацвёрты год як стаіць у пікетах і заўсёды высока трымае бел-чырвона-белы. Заўважце, не ў Брусэлі стаіць; і не на Манхэтане, а там, дзе гэта больш за ўсё сёння патрэбна. У Беларусі.

# ЗША прызначылі новага амбасадара

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

**Камітэт па міжнародных справах Сената ЗША зацвердзіў кандыдатуру Майкла Козака на пасаду пасла Злучаных Штатаў у Беларусі.**

Як паведамілі БелаПАН у інфармацыйнай службе амбасады ЗША, 29 верасня М.Козак будзе прыведзены да прысягі на новай пасадзе. Чакаецца, што ён прыбудзе ў Беларусь у сярэдзіне кастрычніка.

Прэзідэнт Злучаных Штатаў Біл Клінтан абвясціў аб сваім намеры прапанаваць сп. Козака кандыдатам на пасаду амбасадара ЗША ў Беларусі 6 красавіка гэтага года. Паводле інфармацыі з міністэрства замежных справаў Беларусі, агрэман (згоду на прыезд) на М.Козака амерыканскі бок атрымаў яшчэ ўвесну.

Майкл Козак з'яўляецца кар'ерным дыпламатам, які працуе ў Дзяржаўным дэпартаменце ЗША з 1971 года. Ён нарадзіўся ў мястэчку Пасадэна (Каліфорнія) і скончыў Каліфарнійскі універсітэт у Берклі. Сп. Козак займаў пасады першага намесніка юрыдычнага дарадцы Дзяржддэпартамента ЗША і першага намесніка сакратара Дзяржддэпартамента па міжамерыканскіх справах, а апошнім часам узначальваў місію, якая прадстаўляе інтарэсы ЗША пры амбасадзе Швейцарыі на Кубе.

Выступаючы сёлета 6 чэрвеня на слуханнях сенацкага камітэта па міжнародных справах, Майкл Козак сказаў, што яготы досвед працы на Кубе ў апошнія 3 гады можа быць карысным для працы ў Беларусі. На думку М.Козака, праблемы, з якімі яму даводзілася сутыкнуцца на Кубе, нагадваюць сітуацыю, у якой працуе амерыканская амбасада ў Мінску. «Як вы ведаеце, Беларусь — гэта краіна, што знаходзіцца ў сур'ёзным канстытуцыйным і палітычным крызісе, — заявіў ён тады. — Гэты крызіс быў выкліканы пазаканстытуцыйнымі намаганнямі асобы, якая была абраная прэзідэнтам у 1994 годзе, працягнуць тэрмін сваіх паўнамоцтваў і падпарадкаваць усе важныя інстытуты беларускай дзяржавы выканаўчай уладзе. Спроба вярнуць Беларусь да формы ўрада, якая існавала ў савецкі перыяд, несумненна, нанесла шкоду правам чалавека, эканамічнаму і сацыяльнаму дабрабыту беларускага народа».

На слуханнях Майкл Козак заявіў, што быў уражаны падабенствам паміж сродкамі, якія ўжываюць улады Беларусі і Кубы для кантролю за сваімі народамі. «Акрамя імёнаў ахвяраў, апісанні парушэнняў правоў чалавека ў гэтых краінах часта амаль ідэнтычныя, — сказаў ён. — Да таго ж, рыторыка прэзідэнта Лукашэнкі, які абвінавачвае NATO і Злучаныя Штаты ў намерах напасці на Беларусь, паўтарае ўлюбёную тэму Фідэля Кастра».

Міністэрства замежных справаў Беларусі жорстка адрэагавала на гэтае выступленне кандыдата на пасаду пасла. 8 чэрвеня тагачасны прэс-сакратар МЗС Мікалай Барысевіч заявіў аб недапушчальнасці падобных выказванняў. Паводле словаў М.Барысевіча, пытанні, датычныя унутранай структуры і развіцця беларускага грамадства, знаходзяцца ў выключнай кампетэнцыі беларускага народа.

Тым не менш, паводле звестак БелаПАН, зацвярджэнне М.Козака, як і шэрагу іншых кандыдатур на пасады амбасадараў ЗША ў замежных краінах, у Сенаце адкладвалася не ў сувязі з гэтым канфліктам, а выключна па ўнутрыпалітычных прычынах. Зацвярджэнне амбасадараў стала прадметам торгу паміж адміністрацыяй дэмакратаў і камітэтам Сената, які кантралюецца Рэспубліканскай партыяй, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у ЗША. ■

БелаПАН

# Кіраўнікам далі па шапцы

## За несвоечасовую сплату заробкаў



Атрымаць заробак у Беларусі — вялікае шчасце

Фота IREX/ProMedia

**Наталля КУЛАГІНА**

**16 верасня ўступіў у сілу ўказ А.Лукашэнкі «Аб прыцягненні да адказнасці асобаў, вінаватых у невыкананні рашэнняў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб выплаце заработнай платы».**

Ва ўказе нагадваецца, што, згодна з распараджэннем А.Лукашэнкі, запазычанасць па зарплаце павінна была быць пагашаная да 1 верасня. Для кантролю за выкананнем гэтага распараджэння была створаная спецыяльная камісія, якая ўстанавіла, што больш чым у 600 прадпрыемствах і арганізацыях не забяспечаная своечасовая выплата працоўным зарплаты.

Такія факты зафіксаваныя практычна ва ўсіх абласцях і Мінску. Найбольшая запазычанасць па заработнай плаце дапушчаная ў Гомельскай, Мінскай і Гродзенскай абласцях, а таксама на прадпрыемствах міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання і міністэрства будаўніцтва і архітэктуры.

Падчас работы камісіі ўпаўнаважанымі органамі прыцягнутыя да адміністрацыйнай і дысцыплінарнай адказнасці, у тым ліку вызваленыя ад займаемых пасадаў, больш за 90 службовых асобаў.

Указ «звяртае ўвагу» прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына на «недастатковы кантроль за своечасовай выплатай заработнай платы», а таксама «строга ўказвае» віцэ-прэм'еру Аляксандру Папкову на «непрыняцце эфектыўных захадаў па забеспячэнні своечасовай выплаты заработнай платы ў аграрным сектары эканомікі». Міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Уладзімір Папоў і міністр архітэктуры і будаўніцтва Генадзь Курачкін «строга папярэджаныя» за «нізкую патрабавальнасць да кіраўнікоў падведамасных міністэрствам арганізацыяў, якія дапусцілі парушэнні парадку і тэрмінаў выплаты заработнай платы». Адзначаныя «сур'ёзныя недахопы» ў арганізацыі працы Гомельскага, Мінскага і Гродзенскага аблвыканкамаў.

Органам, якія ажыццяўляюць рэгістрацыю суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, даручана «разгледзець пытанне аб ліквідацыі суб'ектаў, у якіх выяўленыя факты несвоечасовай выплаты заработнай платы». ■

БелаПАН

# «Хельсінкі-ХХІ» адкалолася ад Хельсінкскага камітэта

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ**

Праваабаронцы ў колькасці каля 25 чалавек, якія ўваходзілі ў Беларускі Хельсінкскі камітэт, заявілі аб выхадзе са складу БХК і аб намеры «прыкласці ўсе сілы да стварэння ў краіне праваабарончай арганізацыі». Прычынай іх выхаду з камітэта сталі сур'ёзныя рознагалоссі з кіраўніцтвам БХК, а падставай для сыходу з агульнага сходу БХК, які прайшоў 16 верасня, непрыманне парадку дня, прапанаванага радай мінскага аддзялення БХК.Ператварэнне камітэта «ў невялікую калабарацыяністкую партыю — сур'ёзны ўдар па развіцці грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, — гаворыцца ў заяве. — Саўдзел у такога кшталту працэсах для нас цалкам недапушчальны». У ліку першых, хто падпісаў заяву групы «Хельсінкі-ХХІ» — Юрый Хадыка, Аляксандр Патупа, Уладзімір Халіп, Юрый Хашчавацкі.

У заяве выказаны шэраг прэтэнзіяў да кіраўніцтва БХК, якія сталі прычынай расколу праваабарончай арганізацыі. У якасці галоўнай называецца выключэнне некалькіх кіраўнікоў БХК кандыдатамі ў дэпутаты палаты прадстаўнікоў (насуперак рашэнню рады аб няўдзеле ў выбарах у якой-небудзь форме, апроч звычайнага назірання). Гэта разглядаецца заяўнікамі як садзейнічанне задавальненню «галоўнага запыту рэжыму — ягонай легітымізацыі ў вачах сусветнай супольнасці». Адзначаецца таксама «дыктатарскі стыль» кіравання камітэтам, калі «актыўна выкарыстоўваюцца рэпрэсіўныя захады ў дачыненні сяброў БХК, супрацоўнікаў выканаўчай дырэкцыі, усіх тых, хто мае неасцярожнасць выказаць сваю нязгоду з мэтамі і метадамі працы старшыні». «Сумна, але факт, — канстатуецца ў заяве, — праваабарончая арганізацыя сама стала генератарам парушэння правоў чалавека».

Заяўнікі групы «Хельсінкі-ХХІ» просяць падтрымаць намер аб стварэнні новай праваабарончай арганізацыі «усіх тых, хто разумее першачарговую важнасць праваабарончай дзейнасці на дадзеным этапе развіцця Беларусі і гатовы прызнаць, што ў свеце існуюць каштоўнасці больш значныя, чым уласныя палітычныя амбіцыі». ■

БелаПАН

# Фестываль прэсы вымушаюць эміграваць

**Наталля КУЛАГІНА**

Пытанне аб правядзенні першага Беларускага фестывалю недзяржаўнай прэсы, прысвечанага Дню міжнароднай салідарнасці журналістаў, застаецца адкрытым.

Напомнім, што яго планавалася правесці 8 верасня ў Віцебску, у памяшканні культурна-дзелавога цэнтра ААТ «КІМ», прычым, усе неабходныя фармальнасці арганізатар фестывалю — Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) — выканала. Аднак за паўтара тыдня да гэтага дня намеснік старшыні Віцебскага гарвыканкама Ларыса Аленская заявіла прадстаўнікам БАЖ, што Віцебск не можа прадаставіць памяшканне для правядзення журналісцкага форуму, пытанне трэба ўзгадняць з прэзідэнцкімі структурамі. Гэтае патрабаванне ў БАЖ палічылі парушэннем заканадаўства, у прыватнасці, артыкула 1 Закона аб сходах, вулічных шэсціях, дэманстрацыях і пікетаваннях.

Тым не менш, імкнучыся дасягнуць станоўчага выніку, арганізатары фестывалю звярнуліся да ўладаў краіны. Аднак, як паведамляе прэс-служба БАЖ, амаль двухтыднёвыя перамовы з памочнікам прэзідэнта Сяргеем Посахавым былі безвыніковымі: далей за абяцанні справа не зрушылася, пытанне аб правядзенні фестывалю пакуль не вырашанае.

У сувязі з гэтым кіраўніцтва БАЖ разглядае прапановы калегаў з Польшчы і Літвы аб правядзенні першага Беларускага фестывалю недзяржаўнай прэсы на тэрыторыі суседніх дзяржаваў. ■

БелаПАН

# Добры ўраджай бульбы

## Абяцае міністэрства сельскай гаспадаркі

**Аляксей АРЭШКА**

Паводле прагнозаў спецыялістаў міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі, сёлета ўвосень у рэспубліцы будзе вельмі добры ўраджай бульбы.

Згодна з апошнімі аператыўнымі звесткамі, бульба ўбраная на плошчы 8,7 тысячы гектараў, што складае 10% да пасаджанай сельскагаспадарчай культуры. Сярэдняя ўраджайнасць складае 168,4 цэнтнера з гектара.

У мінсельгасхарчы БелаПАН заявілі, што ніякіх праблемаў з набыццём бульбы сёлета ўзімку ў гараджан не будзе — наадварот, ужо цяпер узнікаюць праблемы з яе збытам. І гэта нягледзячы на тое, што цэны на «другі хлеб» даволі нізкія. Напрыклад, бульба, якая ідзе на прамысловую перапрацоўку, рэалізуецца па цане 65 тысяч рублёў за тону, харчовая — 80 тысяч. Ніякіх рэальных буйных кантрактаў на пастаўку бульбы за межы Беларусі пакуль не заключана.

БелаПАН

# Баранавіцкіх чыноўнікаў вучаць этыкету

**Алесь ГОРБАЧ**
**Радыё «Свабода»**

У Баранавіцкім гарвыканкаме днямі з'явіўся даволі цікавы дакумент пад інтрыгуючай назвай «Аб увядзенні ў дзеянне нормаў этыкету і паводзінаў для работнікаў Баранавіцкага гарвыканкама».

Згодна з новым цыркулярам, гарвыканкамаўскім чыноўнікам рэкамендуецца падчас прыёму наведвальнікаў прывітліва ўсміхацца, падтрымліваць кантакт вачыма, вітацца, па магчымасці, першым. З дапамогай фразаў накшталт «Што б Вы хацелі?» альбо «Чым я магу Вам дапамагчы?» чыноўнік павінен дэманстраваць добразычлівы настрой і гатоўнасць да размовы, прыняць наведвальніка так, каб той абавязкова сказаў «Дзякуй». А на гэты дзякуй трэба адказаць «Калі ласка» ці «Няма за што».

Цыркуляр вучыць, што супрацоўнік не павінен развітвацца з наведвальнікам першым, аднак, калі той сыходзіць не развітаўшыся, то абавязкова яму ўслед трэба сказаць «Усяго вам добрага».

Што ж датычыць знешняга выгляду чыноўніка, дык і на гэты конт ёсць інструкцыі: не варта трымаць рукі каля твару, падпёршы імі галаву, валасы заўсёды павінны быць чыстымі, і, увогуле, увесь знешні выгляд супрацоўнікаў, на думку распрацоўшчыкаў гэтага дакумента, павінен падтрымліваць імідж гарвыканкама як сур'ёзнай, надзейнай і стабільнай дзяржаўнай структуры. ■

ПОЛИГРАФИЧЕСКОМУ ПРЕДПРИЯТИЮ (г.МИНСК)
ТРЕБУЕТСЯ НА РАБОТУ
ПЕЧАТНИК
(РОМАЙОР, ДОМИНАНТ) С ОПЫТОМ РАБОТЫ
Т. 8-0294770336

Для размещения редакции газеты
СНИМЕМ В АРЕНДУ ИЛИ
ПРИМЕМ ДОЛЕВОЕ УЧАСТИЕ
В СТРОИТЕЛЬСТВЕ ОФИСА
площадью 100-150 м² в центре Минска
т. 210-02-53
Посредников просьба не беспокоить

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Блеф и тщета куртизанок

**Александр Дубравин**

*(Начало в №№ 56, 57, 58)*

## Как из Иуды слепить апостола

Вообразите сюжет: Иуда не повесился на дереве от стыда и отчаяния, а остался служить стукачом в местной иерусалимской гэбухе. Со временем его продвинули в номенклатуру, вывели в большие начальники, прикрепили к лечкомиссии. Возили в черном членовозе, надолго перекрывая дорожное движение. Хор холуев воспевал и возвеличивал его деяния. Его охраняли и берегли. Мелкие пресмыкающиеся облизывали его пятки, крупные целовали перед ним землю, а функционерши ежеминутно ловили выражение его свиных глазок.

Что иуды, как и апостолы на земле не переводятся. Не переводятся и желающие сделать белое черным. Добро назвать злом. И этим снять с себя (хотя бы на время) позорное клеймо.

На прошлой неделе через государственные газеты к нам обратились давно уже забытые, но все еще функционирующие где-то депутаты палаты представителей национального собрания Республики Беларусь, бывшие когда-то депутатами законного Верховного Совета, но променявшие легитимную законодательную власть на личную преданность г-ну Лукашенко. А именно: товарищи **Александрович, Ананьев, Астапченко, Биккинин, Бурак, Глуховский, Котляров, Кулик, Куцко, Липкин и Ходневич**. (Запомни, читатель, эти фамилии). Свое послание к нам они назвали просто и незамысловато: **«Мы хотим вместе с вами строить процветающую Беларусь!»**. Виноват, я вначале это понял таким образом, что они раскаялись. Показалось, что товарищам надоело околачивать груши в своей палате и они решили заняться делом, спуститься после своих посиделок в гущу народной жизни, жить честно, на среднюю зарплату и бороться с проклятым режимом. Ибо как же может стать Беларусь процветающей страной, если в ней творятся сплошные беззакония и безобразия, а руководит ей просроченный президент по мало кем прочитанной и неизвестно кем придуманной конституции?

Затем мой глаз выхватил одну строчку, заставившую вздрогнуть и подумать: «А как это воспримет их шеф?». Ведь такую критику и самокритику могут позволить себе только очень независимые люди: **«Попытки деструктивных сил, к которым люди относят воров при власти, местных князьков, бывших партийных функционеров...»** Ах! Как верно сказано! Не в бровь, а в глаз проклятому режиму! А вот еще правдивые строки: **«Не имея конструктивной программы, они пытаются захватить и контролировать власть в государстве и, отбросив в сторону всякие разговоры о демократии, расправиться с народовластием, в основе которого – законное право каждого человека, всего народа решать свою судьбу самостоятельным открытым голосованием»**. Так их! Крой, ребята! Туды их в качель! (Правда, про открытое голосование – это перебор, потому что свободным все-таки считается тайное голосование.




Муки совести были Иуде чужды. Он считал себя молодым прагматиком, членом команды реформаторов, защитником народа и его кормильцем. Но счастье все равно не приходило. В гости к нему ездили точно такие же, как и сам, мерзавцы, а служили ему беспринципные и трусливые особи. Порядочные люди по всему миру Иуду глубоко презирали и ненавидели. Плевали вслед его членовозу. Они знали о его подлости из книги, написанной апостолами, подвижниками распятого Христа, которая называется Евангелие. И однажды Иуда сильно обиделся на апостолов. Зачем, дескать, они распространяют по всему миру негативные сведения о нем? Зачем наносят урон его престижу? Обиделся и решил рассчитаться с апостолами. А потому, для затравки, обвинил их в измене. Назвал их предателями, получившими от врагов тридцать сребреников. Иудами назвал их...

Вот такая вечная история, достойная романа. Вечная, потому

Но откуда им это знать, бедным, нелегитимным, с их древними партшколами?) Грешным делом, я даже пожалел этих правдолюбцев, потому что за такие откровения их немедленно должны были бы отчислить из палаты, как неподдающихся выздоровлению. **«Кучка людей, скрываясь за «демократической вывеской», пытается навязать нашим людям, всему обществу жизнь не по законам нашей страны, а по инструкциям зарубежных «кукловодов» и спецслужб. Этому не бывать»**. Ах! Это они про себя, про предательский кремлевский сговор, про российские спецслужбы. Не бывать этому! Долой!

И представь себе, читатель, силу моего разочарования, когда я начал читать этот документ внимательно, с самого начала. Святая правда в мгновенье ока превратилась в грязную ложь. За патетическими словами стояла знакомая уже мораль «заглотчиков»: чем наглее суесловие, тем быстрее околпачивание. Оказалось, что воры при власти и местные князьки – это, в интерпретации авторов, мы с вами, все, недовольные их режимом. И это мы с вами, оказывается, против честных и справедливых выборов. И это мы с вами продаем нашу Родину московским «кукловодам». Более того, мы не хотим радоваться их экономическим достижениям, которые заключаются в том, что за прошедшие годы **«в стране удалось сохранить производственный потенциал промышленности и сельского хозяйства»**. А что, разве уже были бомбежки?

Авторы просто не знают меры в восхвалении самого одиозного режима в Восточной Европе, высказывают недюжинную преданность Лукашенко, и возникает полное ощущение, что жизнь они видят только по БТ: **«На этом фоне неоспоримы социальные завоевания белорусского народа. Его трудом обеспечена социальная защита, сохранены гарантии трудоустройства, отдыха, бесплатного здравоохранения и образования»**.

Цитировать можно весь документ, он того стоит. Но возникает естественный вопрос: зачем ребята подают голос из своего запечка? К чему это: «Мы хотим вместе с вами и т.д.»? Надо ли это понимать так, что мы здесь будем по-прежнему чего-то такое для них строить, а они там, в своем запечке, в своей палате будут продолжать мечтать о расцвете нашей Родины? Что одного срока, проведенного товарищами на нашем горбу, было им явно недостаточно. Неужели они считают всех избирателей полными идиотами, или сами недалекие, если так топорно лепят собственные нетленные образы борцов за святое дело?

Увы, читатель, все гораздо проще. Эти люди не борются за голоса народа. Ведь для популярности у избирателей сегодня (а они в курсе) надо крыть режим последними словами, а не восхвалять его. Народ переполнен негодованием. Но эти ребята твердо знают, что на нынешних выборах победит все равно тот, кто считает голоса. Поэтому им нужен один-единственный голос – их шефа – господина Лукашенко. Этим они продлевают свое существование. По большому счету, они ведь сочинили не письмо, а **текст присяги на верность режиму** и предлагают подписаться под ним другим людям без особых моральных принципов. А в результате – создать в своей палате корпоративный междусобойчик из лично преданных товарищей. Зачем это им нужно?

*Продолжение следует*

# Александра Лукашенко преследуют многовекторные провалы

*Окончание. Начало на стр.1*



***— Может быть, об этом могут рассказать те, кто, по их словам, были свидетелями встречи А.Лукашенко с Б.Клинтоном?***

— Может быть. Мы видим, что даже официальные СМИ не смогли соврать настолько, чтобы утверждать о какой-либо достойной двусторонней встрече. В отношении руководителя Беларуси было продемонстрировано полное единство взглядов цивилизованного мира.

***— Получается, что и китайцы к этим взглядам присоединились. Почему?***

— Я думаю, что у Цзян Цзэминя был настолько плотный график встреч, что А.Лукашенко в него не вписывался. Для Китая слишком малозначительна Беларусь. Несмотря на всю помпезность, которой сопровождаются визиты китайских делегаций в Минск.

***— Как известно, 24 сентября в Югославии должны состояться президентские и парламентские выборы. Можно ли в чем-то провести параллели с ситуацией в Беларуси?***

— В чем то можно. В Югославии оппозиция ищет оптимальные пути МИРНОГО ОТРЕШЕНИЯ Слободана Милошевича ОТ ВЛАСТИ. Этим же занимается и белорусская оппозиция режиму А.Лукашенко.

С.Милошевич – достаточно ловкий манипулятор. Как известно, он будет уже избираться на третий срок за счет манипуляций с конституцией. В новых поправках к конституции президент СРЮ может избираться много раз. Ограничений нет. Я боюсь, что такое может произойти и в Беларуси. Если через предстоящие выборы-фарсы мы позволим легитимизировать режим.

А отличия ситуаций в Югославии и Беларуси заключаются в том, что у нас, слава Богу, нет примеси крайнего национализма властей, который замешан на кровавых войнах.

***— Как Вы оцениваете новые тенденции, которые проявляются в последнее время во взаимоотношениях А.Лукашенко с Кремлем?***

— Пока проявляется агрессивность Москвы в отношении Беларуси. И она, естественно, сказывается на А.Лукашенко. Та помощь России, которая была оказана накануне Венской технической конференции и будет оказываться в дальнейшем, уже в меньшей степени имеет отношение к А.Лукашенко, а в большей – к самой Беларуси. Политика России заключается в отстаивании своих собственных интересов, не теряя Беларуси. Но и не желая оставаться единственной страной, которая поддерживает столь одиозный режим.

***— Вы говорите о единстве взглядов цивилизованного мира в отношении режима А.Лукашенко. Однако, многие наблюдатели отмечают, что на Венской технической конференции по Беларуси такое единство не подтвердилось. И подтверждением этому стало отдельное, жесткое заявление представителя США. Можете ли Вы назвать страны, которые в европейских структурах выступают за, так скажем, мягкий подход к режиму А.Лукашенко?***

— Да, действительно в европейских структурах некоторые страны пытаются фактически лоббировать интересы правящего режима в Беларуси. По некоторым данным, к числу таких стран Европейского Союза можно отнести Финляндию, Германию и Грецию. ■

Беседовал **Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Пусціце і нас да сябе...

**Тамаш ПАЛЬМАЧЫНСКІ**

Шматлікія перашкоды, якія рэжым паставіў перад незалежнымі і партыйнымі кандыдатамі ў палату прадстаўнікоў на этапе збору подпісаў і рэгістрацыі, прывялі да масавага пратэсту і скаргаў у газеты ды еўрапейскія структуры. На незаконныя перашкоды, у прыватнасці, скардзіліся камуністы Сяргея Калякіна, лібералы Сяргея Гайдукевіча, палячнікі Міколы Статкевіча.

Але, як стала вядома, усім «пакрыўджаным» зараз прапануецца падаць апеляцыі непасрэдна на імя Аляксандра Лукашэнкі, які, нібыта, павінен даць дазвол на ўдзел гэтых кандыдатаў у выбарах — што, аднак, не гарантуе ім перамогі. Гэтыя звесткі цалкам адпавядаюць традыцыі маральнага прыніжэння сваіх палітычных супернікаў, якое А.Лукашэнка практыкуе пры любой магчымасці. Тым больш ён не павінен згубіць такі выдатны шанец паказаць еўрапейскім тэхнічным назіральнікам сваю лагоднасць і памяркоўнасць, разлічваючы на прызнанне імі сваіх выбараў. ■

# Пакаранне за байкот могуць адмяніць

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Юрыдычны нонсэнс, які стварыўся ў Беларусі пасля прыняцця новага Выбарчага кодэкса, можа быць выдалены.**

Як вядома, Выбарчы кодэкс, прыняты сёлета, не забараняе заклікаць да байкоту парламенцкіх выбараў. У той жа час, частка 3 артыкула 167 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях за гэтыя ж дзеянні, дазволеныя Выбарчым кодэксам, прадугледжвае адміністратыўную адказнасць. Кожны ўдзельнік публічнага байкатавання можа быць асуджаны да дзесяці мінімальных заробкаў штрафу, альбо да двух месяцаў папраўчых работ па асноўным месцы працы з утрыманнем да 20% заробку.

Падобныя прэцэдэнты ўжо маюць месца ў вялікім аб'ёме. Гэта і сітуацыя з арыштаваным накладам спецвыпуск газеты «Рабочы», і затрыманні маладых людзей за тое, што яны клеілі налепкі, якія заклікалі да байкоту. Ва ўсіх гэтых выпадках міліцыянты кіраваліся менавіта Кодэксам аб адміністратыўных правапарушэннях, а не Выбарчым кодэксам.

Нядаўна з'явілася інтэрв'ю старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, якая заявіла, што, сапраўды, такія супярэчнасці існуюць, але ўвогуле адмяняць гэты пункт адміністратыўнага кодэкса нельга. Ён прадугледжвае адказнасць і за зрыў выбараў, і за перашкоду выбарчаму праву грамадзянаў. Аднак пэўныя змены былі б магчымыя.

А кіраўнік кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік паведаміў у інтэрв'ю радыё «Свабода», што змены менавіта ў артыкул 167 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях могуць быць унесены асабіста Аляксандрам Лукашэнкам праз прыняцце дэкрэта ўжо ў самы бліжэйшы час. Маўляў, для гэтага ўжо падрыхтаваны ўсе неабходныя дакументы. ■

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул.Румянцава, 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гарадзкой дырэкцыі ААТ Белбізнесбанка, код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

КУПЛЮ ГРУЗЫ АКВАЛАНГИСТА (Б/У)
тел. 264-44-83

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Страна болезненных президентов

Аннетта СОКОЛЬНИКОВА

**Сколько должен весить французский президент? Отчего это он так растолстел? Какой у него должен быть цвет лица? Пора, наконец, по этим вопросам внести ясность во французское законодательство, чтобы избавить граждан от напрасных волнений.**



Одна из тем, живо обсуждающихся сейчас во французской прессе, — состояние здоровья Жака Ширака. Точнее, то обстоятельство, что за лето президент заметно располнел. «Набрал пять килограммов, пока отдыхал», — признался Ширак журналистам.

Может быть, в другой стране на это не обратили бы внимания, — но не во Франции. Французы еще не забыли о том, как прежние президенты — Миттеран и Помпиду — подолгу скрывали свою болезнь. Оба были больны раком. Кстати, болезнь Помпиду проявлялась, в частности, в неестественной полноте — побочном эффекте от лекарств, которые ему прописали врачи.

Об этом и вспомнили журналисты, увидев располневшего президента. И хотя личный врач Ширака попытался успокоить общественность, напомнив, что президенту уже 67 лет, а для этого возраста поправляться вполне естественно, французы продолжают беспокоиться.

Предположения о болезни президента возникли еще 14 июля, во время традиционного выступления Ширака по телевидению по случаю Дня взятия Бастилии. Было отмечено, что президент говорит с видимым усилием, да еще и хриплым голосом. А 27 августа стало очевидно, что с президентом что-то происходит. На церемонии в честь освобождения трех заложников с филиппинского острова Жоло Ширак поразил публику неестественной полнотой и бледностью. Тут же поползли слухи о тяжелой болезни президента.

Патрик Деведжиан, пресс-секретарь президента Франции, заявил, что «пресса нагло использует слухи о болезни Жака Ширака с целью добавить себе популярности». Деведжиан считает, что пять лишних килограммов не являются свидетельством болезни. «Неужели человеку нельзя набрать немного лишнего веса?» — сказал он, посоветовав журналистам не делать скоропалительных выводов, а заниматься своим делом. Раймон Форни, президент французской Национальной ассамблеи, также считает, что здоровье президента — «его личное дело. Граждан должна в первую очередь интересовать политическая деятельность главы государства».

Тем не менее разговоры о здоровье Ширака не утихают. До новых президентских выборов осталось меньше двух лет, так что не исключена возможность провокации со стороны противников Ширака. Некоторые французы жалеют, что вместе с бывшим президентом Франсуа Миттераном умер обычай, по которому президент был обязан ежегодно публиковать специальный пресс-бюллетень о состоянии своего здоровья. Но, по мнению других, это все равно ни к чему не привело бы, ведь известно, что сам Ф.Миттеран, публикуя бюллетень, фальсифицировал анализы.

Личный врач Ширака уклонился от прямого вопроса журналистов. «Слухи — вот единственная болезнь французского президента. Кстати говоря, ею страдают практически все главы государств», — сказал он. ■

# Наши устроили революцию в Израиле

Трофим ЛОБАЧЕВ

**Вообще-то давно уже было ясно, что все выезжающие, и выезжающие в огромных количествах, в Израиль советские, а потом и постсоветские граждане добра сионистскому государству не принесут. Так оно и вышло. Наши его таки подточили изнутри.**

Израильский премьер Эхуд Барак сделал целый ряд заявлений, которые нельзя назвать иначе, кроме как гражданской революцией. То есть если все, что говорит Барак, претворить в жизнь, это будет означать пересмотр самих основ еврейского государства в той его форме, как оно создавалось после Второй мировой войны. Это будет означать существенный пересмотр (вплоть до полного низведения) роли раввинов и вообще ортодоксального иудаизма в повседневной жизни страны.

Что же он предлагает? А вот что. Ввести институт гражданского брака, ныне в Израиле отсутствующего. Так называемые смешанные пары вообще в Израиле в законный брак вступить не могут, а мотаются на близлежащий Кипр, чтобы расписаться там. Теперь с монополией раввинов на брак предлагается покончить. Дальше — больше: Барак покушается уже на святое. То есть на шабад — тотальный запрет евреям работать в субботу. Нет, он пока еще не дошел до такого вольтерьянства, чтобы приказать всем стать к станку, но уже предлагает разрешить автобусам, то есть коммунальному транспорту, работать по субботам, а также отменить запрет на полеты национальной авиакомпании *El Al* по тем же субботам. По мнению правительства, это станет первым шагом к национализации авиакомпании и привлечению инвесторов, сейчас опасающихся таких религиозных строгостей.

Предлагается также ликвидировать специальное министерство по делам религии, а его функции переложить на общественные организации. Звучит и почти кощунственное предложение: изъять графу о религиозной принадлежности из удостоверений личности! Для двух миллионов неевреев в Израиле это будет означать шаг на пути к отмене той системы, которую они считают дискриминационной. Что случилось, к чему все эти революционные выверты? Объяснение отчасти политическое, отчасти — этнографическое.



Реформа, предложенная Э.Бараком, сведет роль ортодоксальных евреев к нулю

Политическая часть состоит в том, что Барака уже совсем достали религиозные ортодоксы, которые, как он считает, стоят на пути его мира с палестинцами. А с палестинцами все равно надо будет искать мира и жить, судя по всему, если не в одном государстве, то сильно по соседству. Ортодоксальному еврейскому государству ужиться будет с ними труднее, чем государству, которое ближе к американскому или европейскому типу.

Второе объяснение — этнографическое: уже сегодня выходцы из бывшего СССР составляют примерно четверть всего населения Израиля (причем существенную часть их составляют семьи смешанные — иудейско-христианские). Это люди, мало того что выросли в атеистическом государстве со всеми этнокультурными последствиями, но еще и предельно социально циничные. Их бытовая культура подтачивала, а главное, продолжает подтачивать устои ортодоксального сионизма, развивая его в светском, более живучем и конкурентоспособном в условиях современного мира направлении. ■

# Европейская оборона и европейская солидарность

Вацлав ГАВЕЛ,
президент Чешской Республики

**Возможно, во мне говорит опыт человека, пережившего сорок лет коммунистического режима, а перед тем – нацистскую оккупацию. Быть может, сказывается опыт жителя страны, находящейся в самом центре Европы, страны, которая веками являлась перекрестком европейских духовных течений, геополитических интересов и противоборства. Возможно, все эти факторы в совокупности привели меня к убеждению в том, что Европа является единым политическим образованием, безопасность которого неделима.**



Представление о возможности вечного существования двух Европ – одной демократической, стабильной, процветающей и интегрированной, другой менее демократической, менее стабильной, менее процветающей и изолированной, – неверно. Все равно что одна половина комнаты может отапливаться, а другая содержаться в холоде. Есть только одна Европа, несмотря на существующую разделенность. Любые значительные события находят отзвук на всем континенте в целом.

Если Европе предстоит стать одним целым, если Европейский Союз собирается принять в свои ряды новые посткоммунистические демократии (что соответствует интересам всей Европы), то нужно решить ряд жизненно важных задач как внутри новых демократий, так и внутри Европейского и Атлантического союзов.

Дело в том, что живущее общество не может перестроиться по команде сверху. Таким образом, Европа должна помочь этим новым демократиям стать органической частью континента, подчиненного идеям углубления и расширения гражданского общества. Чем более разнообразными и взаимосвязанными станут европейские гражданские структуры, тем лучше новые демократии будут приспособлены к членству в ЕС, и тем более стабильной окажется их государственность.

Чтобы достичь таких целей, Европа должна поощрить новые демократии передать функции по осуществлению различных задач по укреплению солидарности самоуправляемым органам и неправительственным или общественным организациям. Чем ниже уровень, на котором будут выполняться эти задачи, тем более прозрачным и экономичным он окажется, и тем лучше он будет удовлетворять те запросы общества, которые не в состоянии распознать центральные органы власти. Общественная солидарность станет более достоверной, если теснее увяжется с конкретными людьми или их союзами.

Подлинная солидарность среди людей, общественных групп, в населенных пунктах и регионах, также служит самой надежной основой для таких форм солидарности, которые могут быть реализованы только на государственном уровне. Политика умиротворения с идеей отречения от европейской солидарности, приведшая к капитуляции в Мюнхене, является горькой главой современной европейской истории. Этот опыт до сих пор призывает быть бдительными. Со злом необходимо бороться с первого момента его появления, но недостаточно одних только действий правительства, поскольку правительственная политика проистекает из настроя гражданского общества, из мнения людей.

И действительно, обеспокоенность вопросами безопасности является выражением общественной солидарности. ЕС интенсивно работает над новой концепцией политики безопасности. Она должна включить в себя способность к быстрому принятию решений и к быстрому претворению решений в конкретные действия — реформы, необходимость которых подтвердили последние события в Югославии.

Прошлогодняя интервенция NATO показала, что уважение к человеческой жизни и человеческой свободе и соображения паневропейской безопасности могут повлечь интервенцию извне границ Европы. Чем сильнее мандат на такие действия, тем лучше. К сожалению, могут возникнуть ситуации, в которых мандат ООН не может быть получен, пусть даже интервенция будет в интересах многих людей, или всей Европы, или даже человеческой цивилизации в целом. До недавнего времени Европа была плохо подготовлена к такой альтернативе. Сейчас она подготовлена лучше, по крайней мере, психологически. Такая психологическая готовность должна быть использована для улучшения материально-технической готовности Европы.

Но требуется сделать гораздо большее в области превентивной безопасности, чтобы эта безопасность отражала ценности более широкого европейского гражданского общества. Если международное сообщество начало бы действовать с самого начала конфликта, то в Косово, Боснии и Герцеговине и прочих частях бывшей Югославии удалось бы спасти десятки тысяч человеческих жизней и много материальных ценностей. Несмотря на предупреждения о нависшей угрозе, действия были скромными. Эти ошибки проистекали из различных соображений внутренней политики, а также из неподготовленности принять на себя риск во имя благой цели.

Действительно, без американской энергии международное сообщество по-прежнему продолжало бы наблюдать ужасы Косово. Европа не может постоянно зависеть от Америки, в особенности при решении европейских проблем. Она должна быть способна самостоятельно вырабатывать решения. Трудно представить, что ЕС получит достойную роль в мировом порядке, если он не в состоянии определиться в отношении защиты прав человека не только на своей территории, но и в тех областях, которые в один прекрасный день могут к нему присоединиться.

Расширение ЕС можно понять только тогда, когда оно идет рука об руку с реформированием институтов ЕС. Я верю в то, что Межправительственная Конференция по институциональным реформам приведет к выработке ценных предложений, направленных на продвижение Союза вперед. Но я смотрю на это как на начало процесса, который может затянуться на десятилетия и который нужно постоянно подстегивать, ускоряя процедуру принятия решений в ЕС и делая ее более прозрачным.



В объединенной Европе не должно быть границ

С институциональной реформой связан и вопрос о том, как гарантировать меньшим государствам, платящим взносы в ЕС пропорционально своему размеру, равноправие при голосовании по сравнению с большими странами. Одним из возможных решений является учреждение второй палаты Европейского Парламента, члены которого будут избираться не прямым голосованием, а парламентами стран-членов ЕС из своих рядов. Таким образом, первая палата ЕС (т.е. его нынешний парламент) отражала бы размер отдельных государств-членов; вторая же палата с одинаковым числом представителей от каждой страны усилила бы равенство.

Раньше или позже, эти изменения потребуют того, чтобы ЕС принял четкую и понятную Конституцию, текст которой смогли бы выучить все дети Европы. Такая Конституция должна состоять из двух частей. Первая часть определяла бы права и обязанности граждан Европы и членствующих стран, основные ценности объединенной Европы, и значение и цели интеграции. Вторая часть описывала бы ключевые институты ЕС, их главные полномочия и взаимоотношения между ними. Такой основной закон не обязательно автоматически бы означал трансформацию сегодняшнего союза в федеральное сверх-государство, которым пугали евроскептики. Тем не менее, он бы облегчил для граждан интегрированной Европы задачу понимания назначения ЕС и связи ЕС с их собственной жизнью и, в результате, помог бы отождествить себя с ЕС. ■

© Project Syndicate

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

